*Вольга КАЧАЛКА*



# ПРАШУ, КАБ МЯНЕ ПЕРАНЕСЛІ Ў НЯСВІЖ

***Вольга Качалка — маладая даследчыца, студэнтка 4 курса аддзялення беларускай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ — прадстаўляе матэрыял з фактамі, многія з якіх застаюцца невядомымі шырокай чытацкай аўдыторыі.***

> ***Дзе б я ні памёр (верагодна,***
> ***што з гэтых нашых зямель на чужыну***
> ***ўжо не ад'еду, але хоць бы і памёр***
> ***выехаўшы куды-небудзь),***
> ***прашу, каб мяне перанеслі ў Нясвіж.***
>
> З Тастамента Мікалая Крыштафа Радзівіла

Разуменне чалавекам сваёй прыналежнасці да вялікага і вечнага дае яму грунт пад нагамі, жыццёвы падмурак і ўнутраны стрыжань. У такім выпадку ён не мітусіцца ў бяздзейнасці, а, наадварот, ведае, што рабіць і як сябе паводзіць. Калі мы прыглядаемся да славутых асоб беларускай гісторыі, складваецца ўражанне, што яны мелі грунт, падмурак і стрыжань — дакладна ведалі, адкуль чэрпаць сілы і натхненне.

Пазіраючы на постаць Мікалая Крыштафа Радзівіла, вядомага ў гісторыі Беларусі як Сіротка, праз прызму сённяшніх ідэалаў, мы можам толькі захапляцца гэтым вартым пашаны чалавекам. У сённяшніх умовах уявіць сабе асобу, якая ахвяруе вялікія ўласныя фінансы на абарону Айчыны і яе культурнае развіццё, цяжкавата. Варта захапляцца таксама і актыўным палітычным жыццём князя, які асабіста браў удзел у войнах і дбаў пра палітычную самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага. Ён быў Радзівілам не паводле прозвішча, а паводле статусу, быў чалавекам прынцыпаў, глыбокай веры ў Бога і вялікай патрабавальнасці да сябе. Яго духоўная еднасць з зямлёй, дзе нарадзіўся, вызначылася вялікім жаданнем быць пахаваным у Нясвіжы.

Нашчадкі выканалі волю Мікалая Крыштафа Радзівіла — пасля смерці ў 1616 годзе пахавалі князя ў Нясвіжы ў касцёле Божага Цела, побач з жонкай і дзецьмі.

Адыход з жыцця аднаго з самых вядомых Радзівілаў стаў прычынай узнікнення двух літаратурных помнікаў стылю барока. Першы — гэта «Казанне на пахаванні М. К. Радзівіла» ксяндза Марціна Відзевіча, другі — «Даніна памяці М. К. Радзівілу» ксяндза Яна Аланда (казанне на ўгодкі смерці). Яны былі прамоўлены адпаведна ў 1616 і 1617 гадах і пасля выйшлі асобнымі выданнямі. Рэаліі годнага жыцця Мікалая Крыштафа адлюстраваны ў гэтых творах, яны з'яўляюцца сведчаннем патрыятызму і высакароднасці іх героя. Марцін Відзевіч звязаў якасці князя з вобразам арла, сімвала роду Радзівілаў, змешчананага на выяве герба «Трубы». Традыцыя мець свой герб у сям'і Радзівілаў не была проста традыцыяй: Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка праз усё сваё жыццё захаваў годнасць, высакароднасць, моц — якасці, уласцівыя арлу:

*«Велічны той арол, бо вялікі Радзівіл з'яўляецца князем Свяшчэннай Рымскай Імперыі. [...] Але ж звернем увагу ўжо на два шырокія крылы гэтага арла [...] без іх ніводны пан або князь, як бяскрылы арол, не можа ані сягнуць (узляцець) увысь, ані*




*лётаць высока, ён вымушаны сядзець між людзьмі нізка на зямлі. Вось на такія [крылы] высакароднага арла, нашага яснавяльможнага памерлага князя глядзім мы сёння».*

Ён нарадзіўся ў Нясвіжы ў 1549 годзе. Час той быў стракаты: вялікія дасягненні і вялікія страты перажывала Вялікае Княства Літоўскае. Бацька князя, Мікалай Радзівіл Чорны, быў не менш вядомым у гісторыі чалавекам, а маці паходзіла са знакамітага шляхецкага роду Шыдлавецкіх. Па волі лёсу Мікалай Крыштаф, народжаны і ўзгадаваны ў сям'і перакананых кальвіністаў, будучы юнаком, падчас вучобы за мяжой перайшоў у каталіцтва і пераканаў зрабіць гэта ўсіх сваіх родных братоў. Дарэчы, вядомая мянушка Радзівіла — Сіротка — мае даволі цікавае паходжанне. Легенда распавядае пра выпадак, калі вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст у адным з пакояў палаца ўбачыў пакінутае без нагляду дзіця. Кароль узяўся суняць яго слёзы, кажучы: «Ах, ты мой бедны, усімі забыты сіротка!». Гэта і быў Мікалай Крыштаф, з таго часу і пачалі яго так называць.

Прадстаўнікі адной з самых уплывовых сямей ВКЛ заўсёды мелі выдатнае выхаванне, былі людзьмі адукаванымі і адданымі Радзіме. Мікалай Радзівіл Чорны адправіў старэйшага сына на вучобу ў Еўропу. Там Мікалай Крыштаф вучыўся ў пратэстанцкіх навучальных установах і сустракаўся з вядомымі рэлігійнымі дзеячамі. Радзівілы вельмі дбалі пра вядомасць ВКЛ за мяжой. Да прыкладу, Мікалай Радзівіл Чорны даслаў сыну Мікалаю Крыштафу ліст аб перамозе на рацэ Ула з наказам распаўсюджваць яго ў Еўропе — гэтым самым павінна было распавядацца пра поспехі ў вайне з Маскоўскай дзяржавай. Падчас вучобы за мяжой маладога чалавека напаткала навіна і пра смерць бацькі. Зрабіўшыся паўналетнім, ён атрымаў бацькаву спадчыну і стаў апекуном малодшых братоў і сясцёр. Мікалай Крыштаф Радзівіл усведамляў адказнасць за спадчыну сваёй сям'і і разумеў, што як пры бацьку, так і пры ім багацці павінны прыносіць плён для людзей. Як было прамоўлена ў казанні Марціна Відзевіча, так было і ў рэальнасці — князь увекавечыў сваё імя праз развіццё Нясвіжа. Менавіта пры Сіротцы горад атрымаў Магдэбургскае права і герб, актыўна пачалі будавацца шпіталі і дарогі, касцёлы і манастыры. Грашыма князь дапамагаў нават дзецям бедных мяшчан. Радзівіл часта ўкараняў заходнееўрапейскі вопыт у рэалізацыі сваіх задум. Прыкладам гэтаму служыць стварэнне ардынацый на сваіх землях. Гэты з Радзівілаў быў заклапочаны не толькі функцыянальным развіццём Нясвіжа, але спрабаваў зрабіць яго сапраўднай перлінай сярод беларускіх гарадоў. Прыкладам таму касцёл Божага Цела, адзін з першых пабудаваных у стылі барока італьянскім архітэктарам Янам Марыя Бернардоні. Пры касцёле быў заснаваны езуіцкі калегіум, а ў сутарэннях святыні па жаданні і ініцыятыве Мікалая Крыштафа закладзена крыпта для фамільных пахаванняў. Сёння там захоўваецца каля 70 трун Радзівілаў — гэта трэццяе па памеры родавае пахаванне ў Еўропе! Сённяшні Нясвіж увогуле славіцца сваёй архітэктурай дзякуючы менавіта Мікалаю Крыштафу Радзівілу. На працягу жыцця Мікалай Крыштаф ахвяроў-

ваў агромністыя фінансы не толькі нясвіжскім кляштарам, але таксама касцёлам і капліцам у Ерусаліме, фінансаваў і праваслаўныя храмы. Князь заснаваў першую ў Вільні каталіцкую друкарню, перанёсшы яе з Брэста і аддаўшы езуітам. Таксама па яго ініцыятыве ў канцы XVI стагоддзя была пачата праца над стварэннем мапы Вялікага Княства Літоўскага. Гэта грандыёзнае выданне, выкананне якога было даручана Тамашу Макоўскаму, пабачыла свет у 1603 годзе і заставалася запатрабаваным яшчэ доўгі час. Марцін Відзевіч увасобіў гэтыя заслугі Мікалая Крыштафа ў вобразе арліных крылаў, без якіх птушка не магла б лётаць. Два крылы, на якіх трымаецца арол і якія паказваюць веліч, — гэта, у дачыненні да князя, багацце і годнасць:

*«Гэты вялікі арол мае на дзіва шырокія крылы. Хто хоча ўбачыць ягоныя багацці, што азначае першае крыло, хай не глядзіць у скарбніцы і скрыні, бо не яны з'яўляюцца сапраўдным багаццем, якое схавана, але няхай накіруе свой позірк на магутныя, вялікія і абарончыя замкі, на гарматы і стрэльбы, на порах і ўсю ваенную артылерыю, на гарады ды аркі ды мураваныя ратушы, на велічныя касцёлы і іх багатае аздабленне, на плябаніі, шпіталі і іншыя таму падобныя рэчы. [...] Хто ж не заўважыць, якія выдаткі і ахвяраванні павінны былі быць патрачаны на агульныя дарогі, як сады абсаджаны разнастайнымі дрэвамі [...]?»*

У пахавальным казанні Марціна Відзевіча асабліва падкрэсліваецца тое, што князь не шукаў дзяржаўных пасад, але быццам бы яны самі яго знаходзілі. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка меў пасаду надворнага маршалка ВКЛ, троцкага ваяводы, віленскага ваяводы, але, як сказана ў казанні, не імкнуўся атрымаць гэтыя званні, наадварот, з-за слабога здароўя адмаўляўся ад іх. Але дзяржава мела ў ім патрэбу — як у мудрым і справядлівым сенатары. І Мікалай Крыштаф Радзівіл актыўна займаўся палітычным жыццём краіны. Ён удзельнічаў у выбары караля і клапаціўся ў цяжкія часы бескаралеўя, каб краіна мела гаспадара, таму ў казанні Марціна Відзевіча мы бачым заклік: *«Аплаквай, найяснейшы міласцівы кароль, прыхільніка тваёй годнасці і велічы»*. Князь валодаў дыпламатычным талентам, яго рашэнні былі дальнабачнымі, а такая дзейнасць вельмі запатрабавана ў палітычным і грамадскім жыцці дзяржавы. Усведамленне вялікай страты для краіны прысутнічае ў казанні Марціна Відзевіча: *«Аплаквай, слаўная Айчына, найлепшага сенатара»*. Радкі казання Яна Аланда: *«Справядліва нашае сэрца трывае ў жалобе з-за смерці такога пана. [...] Але для збаўлення душы больш справядліва і патрэбна браць прыклад яго святога жыцця»*.

Шляхецкае прызначэнне абароны Айчыны цалкам рэалізавалася ў жыцці Мікалая Крыштафа Радзівіла. Князь асабіста прымаў удзел у важных бітвах супраць Маскоўскага княства. Ён ахвяраваў сваім здароўем і рызыкаваў жыццём, атрымліваючы баявыя раненні, якія выклікалі сур'ёзныя наступствы. Будучы чалавекам глыбокай веры, Мікалай Крыштаф следаваў важнаму хрысціянскаму прынцыпу — шчыра і аддана служыць свайму жыццёваму прызначэнню. Для Радзівілаў яно заключалася найперш у любові да Айчыны. Марцін Відзевіч называе гэта вельмі важнай чалавечай якасцю, якая спаўна рэалізавалася ў дзеяннях князя Радзівіла:

*«Праз любоў да Бога нараджаецца любоў да Айчыны. [...] Верным знакам шчырай любові да Айчыны з'ўляецца тое, што [чалавек] не шкадуе не толькі сваёй маёмасці, але і ўласнага здароўя, каб зберагчы мілую Айчыну. У чым і быў на дзіва дбайным яснавяльможны князь, бо не толькі выдаткоўваў сродкі на вайскоўцаў у паходах, але і сам праславіўся праз удзел у некалькіх значных выправах і бітвах супраць ворагаў Айчыны. Асабліва праславіўся пры Жыгімонце Аўгусце пад замкам Ула. Потым пры каралю Стэфану, калі той быў з войскам каля Гданьска, а Масква нішчыла Інфлянты ў 1577 годзе. У 1579 годзе, калі кароль Стэфан, прыбыўшы да Вялікага Княства Літоўскага пад Полацк, выправіўся супраць агульнага для Айчыны непрыяцеля, ён [М. К. Радзівіл] таксама туды выправіўся са сваім атрадам. І там, мужна змагаючыся з непрыяцелем, быў паранены ў галаву пулгакам. Дзякуючы Божай ласцы, цудоўным чынам вылечыўся ад небяспечнага ранення. Таксама ў 1581 годзе, хоць слабы і хворы, побач з каралём прабываў цэлае лета ў абозе пад Псковам»*.

Важным хрысціянскім чыннікам у свеце тагачаснай хрысціянскай культуры выступа-

ла мудрасць. Адукаванасць чалавека была адной з рыс духоўнага развіцця асобы. Мікалай Крыштаф Радзівіл атрымаў бліскучую адукацыю ў традыцыях роду. На працягу ўсяго жыцця князь павялічваў сваю эрудыцыю. Марцін Відзевіч дае важнае і цікавае сведчанне мудрасці і адукаванасці Мікалая Радзівіла:

*«Трэцяй княжацкай дыбрачыннасцю ў ім была вялікая мудрасць. [...] Дасканала ведаў матэматыку і геаграфію, а ў лекарскай навуцы самі дактары не маглі наслухацца яго цудоўных размоў. [...] Ахвотна запытваўся пра новыя і навуковыя кнігі, якія выходзілі ў свет, і загадваў іх скупляць. Таксама ахвотна іх чытаў. Ведаў замежныя мовы і [...] сам без перакладчыка мог вельмі добра размаўляць з людзьмі розных народаў. У сенаце даваў мудрыя парады і здалёк, быццам арліным вокам, выглядаў, што павінна здарыцца або адбывацца, і не пераставаў перасцерагаць. [...] Мудрым словам і сваім аўтарытэтам нязгоды і бойкі паміж вялікімі сем'ямі стрымліваў і цярпеў».*

Шмат гучных слоў можна казаць пра патрыятызм Мікалая Крыштафа Радзівіла, якія ён, безумоўна, заслугоўвае. Аднак адной з праяў служэння Айчыне з'яўляецца любоў да чалавека. Гэта ўласцівасць натуры Мікалая Крыштафа Радзівіла выявілася ў вельмі значнай і яскравай падзеі яго жыцця — падарожжы ў Святую Зямлю. Пра яго мы можам даведацца з творча перапрацаванага дзённіка падарожа князя па Блізкім Усходзе *«Hierosolymitana peregrinatio Illustrissimi Domini Nicolai Christophori Radziwili, ducis in Olyka, epistolis comprehensa»* («Пэрэгрынацыя ў Ерусалім Найяснейшага Пана Мікалая Крыштафа Радзівіла, князя ў Алыцы, сабраная ў лістах», 1583—1584). Ужо ў мэце выдання, якую князь акрэсліў як «пашырэнне кругагляду землякоў», бачны клопат пра суайчыннікаў, задзел на іх адукаванасць і абазнанасць пра замежныя краіны. У гэтым духоўным падарожжы Мікалай Крыштаф шукаў карысць для сваёй дзяржавы. Ён назіраў за прыроднымі ўмовамі краін Блізкага Усходу, іх гаспадаркай, земляробствам, каб атрыманыя веды выкарыстаць ва ўласным гаспадаранні. Пільнай увагі князя заслугоўвалі архітэктура аб'ектаў і будаўнічыя матэрыялы. У Егіпце наш Радзівіл вельмі зацікавіўся старажытнымі пахаваннямі, а менавіта рэчывамі, з дапамогай якіх бальзаміравалі целы фараонаў. Як вядома з біяграфіі князя, ён нават узяў некалькі мумій з сабой на Радзіму, але, на жаль, яму давялося скінуць іх з карабля падчас буры. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Сіротка прывёз спосаб бальзаміравання ў Нясвіж і перадаў яго прыдворнаму лекару. Але лекар раптоўна памёр, так і не перадаўшы сакрэт рэцэпту, таму целы прадстаўнікоў роду сталі захоўваць з дапамогай вакууму ў цынкавых трунах. Мікалай Крыштаф у сваёй кнізе апісваў таксама народныя звычаі, святы, традыцыі і адносіны паміж народамі. Пра папулярнасць і вялікі попыт кнігі сярод людзей сведчаць 19 перавыданняў і мноства перакладаў на польскую, нямецкую, рускую мовы.

Кажуць, што сапраўды пачынаеш любіць і цаніць месца, дзе нарадзіўся і вырас, толькі пасля разлукі з ім. Перажыўшы доўгае падарожжа хоць і ў Святую Зямлю, але ўсё ж на чужыну, Мікалай Крыштаф у сваім тастаменце асаблівым чынам падкрэсліваў важнасць свайго жадання быць пахаваным ля сваёй сям'і, у родным горадзе, у сваёй краіне. Ян Аланд заўважае:

*«Тастамент — гэта развітанне з гэтым светам не лежачы на смяротным ложку, але ў добрым здароўі і моцы, у трыццацігадовым узросце свайго жыцця».*

Урыўкі з тастамента Мікалая Радзівіла прыведзены ў казанні Марціна Відзевіча:

*«І тут прашу аб пахаванні майго цела. Хачу, каб быў пахаваны ў нясвіжскім касцёле Божага цела, які належыць ордэну езуітаў, у дольнай капліцы Святога Крыжа, дзе падрыхтаваў сабе і нашчадкам [месца] на хвалу Божую. Там я ўжо пахаваў сваю жонку і двух сыноў, Мікалая і Крыштафа. І дзе б я ні памёр (верагодна, што з гэтых родных краёў на чужыну ўжо не ад'еду, але хоць бы і памёр, выехаўшы куды-небудзь), прашу, каб мяне перанеслі ў Нясвіж без аніякай пышнасці [...]. Каб маё цела не было прыбрана ніякімі ўбраннямі, апроч майго пілігрымскага адзення, у якім я быў каля Святога гробу нашага Збаўцы Езуса Хрыста».*

Але не толькі тастамент сведчыць пра вялікае жаданне князя быць пахаваным на бацькоўскай зямлі. Свае ўспаміны пра гэта

жаданне Мікалая Крыштафа Ян Аланд таксама размяшчае ў сваім казанні:

*«Яснавяльможны князь меў пэўны досвед і распавядаў пра яго ў звычайных размовах, як, бываючы ў чужаземных краінах, шмат разоў бачыў на розных месцах прыгатаваныя і прыбраныя дамавіны для пахавання розных паноў, у якіх, аднак, не спачываюць. Бо калі іх жыццё скончылася, яны не былі перанесены сябрамі да сваіх пахавальняў. […] Ні ў якім іншым месцы, а толькі ў гэтым касцёле [князь] прагне злажыць сваю галаву. У гэтым і пацешыў яго значна ласкавы Бог: не ў Італіі, не ў Германіі, не ў Галіі, не ў Англіі, не ў Палестыне, не ў Егіпце і не ў іншых далёкіх і небяспечных краінах, у якіх змоладу часта бываў і не раз мог загінуць, але ва ўласным доме, на сваім ложку, пры сваіх мілых сынах, у прававерным каталіцкім звычаю пакінуў прыпынак зямнога жыцця, і пахаваны, як і сам хацеў, ў тым касцёле, які збудаваў уласным коштам на хвалу Пану Богу».*

Шукаць славы ў сучасным разуменні не з'яўляецца годным жаданнем, хутчэй, варта, каб слава сама знайшла цябе. У барочнай жа культуры шуканне славы набывала высокі змест: вельмі годным лічылася жаданне мець добрую памяць у нашчадкаў, зрабіць у жыцці тое, што цябе сапраўды праславіць. У хрысціянскай традыцыі зямной славай чалавек заслугоўваў Неба. Мікалай Крыштаф Радзівіл сур'ёзна ставіўся да таго, што ён пакіне пасля сябе, які прыклад дасць дзецям, як праславіць род уласным жыццём. У казанні Яна Аланда мы маем доказы небеспадстаўнай пасмяротнай славы князя, яго заслугу быць прыкладам і ўзорам служэння Богу, Айчыне і людзям:

*Яшчэ жадае сабе яснавяльможны князь пасля смерці славы і благаслаўлення ў людзей. […] Заслужыў яе [славу] мудрымі парадамі ў мірны час, кроўю і грашовымі выдаткамі на войнах, у розныя часы — незлічонымі дабрачыннасцямі перад Богам, Айчынай, бліжнім. […] Нясвіж будзе вечна памятаць свайго дабрачынца, пры якім ён [Нясвіж] здабыў прывілей залатой вольнасці, гарадскіх правоў, славы не толькі ў Кароне Польскай, але і ў замежных краінах. Студэнты будуць успамінаць з вялікай пашанай патрона і мецэната пад час свайго навучання, для будучых стагоддзяў змогуць ушанаваць яго*



*некалькімі вершамі іх маладой кемлівасці.. […] Будуць памятаць да смерці цудоўныя сыны свайго бацьку. […] Зычлівая Айчына будзе заўсёды мець у памяці свайго мудрага сенатара, разам з якой [Айчынай] ён заўсёды быў побач пад час любых цяжкасцяў. Яе [Айчыну] і сыноў сваіх бараніў ад непрыяцеляў уласным здароўем і грудзямі».*

Шчырасць Мікалая Радзівіла ў самаадданасці, а не ў блюзнерствах, амбіцыях ці хітрых стратэгіях даказваецца настойлівым жаданнем спачываць целам на беларускай зямлі, у родным Нясвіжы. Князь не пажадаў слаўнага пахавання на Святой Зямлі ці ў якім-небудзь іншым знакавым месцы, ён не хацеў гучнай і багатай урачыстасці ў свой гонар. Ён сустрэў вечнасць такім, якім ёсць, стаў перад Богам не ў княжацкім адзенні, а ў пілігрымскім убранні, у праўдзе і пакоры. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка не меў страху смерці, бо ён зрабіў усё, што мог зрабіць у сваім жыцці, скарыстаў яго спаўна, вычарпаў усе магчымасці і гэтым даў велічны прыклад сучаснікам, а таксама і нам, далёкім нашчадкам, бо вечныя каштоўнасці неабходны чалавеку ва ўсе часы.